№ 3 (119). Вільня, 20 Студня 1938 г. Год X.

Шлях Моладзі

Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

# Што можна і трэба рабіць

Зьмяняюцца часы, зьмяняецца палажэньне і магчымасьці працы на беларускай адраджэнскай ніве. Тое, аб чым яшчэ ня так даўно шырока пісалася і гаварылася, аб тым цяпер бесьпячней маўчаць. Вось-жа ў новых абставінах, на пачатку новага году, кінем вокам на сваю ніву, глянем, што мы можам і што трэба нам рабіць.

Перадусім, што нам Беларусам, грамадзянам Польскага Гаспадарства, залічаным да нацыянальных меншасьцяў, дае Канстытуцыя, якая ёсьць праўнай падставай гаспадарственнага, грамадзкага, эканамічнага і культурнага жыцьця. Вось-жа абавязуючая цяпер Канстытуцыя кажа:

„Кожны грамадзянін мае права захаваньня свае нацыянальнасьці і аховы свае мовы й нацыянальных асаблівасьцяў.

Асобныя дзяржаўныя законы забясьпечаць меншасьцям у Польскім Гаспадарстве поўнае і вольнае разьвіцьцё іх нацыянальных асаблівасьцяў“...

„Гаспадарства гварантуе грамадзянам магчымасьць развою іхніх вартасьцяў асабістых, вольнасьць сумленьня, слова і арганізацыі“.

„Ані паходжаньне, ані веравызнаньне, ані пол, ані нацыянальнасьць ня могуць быць прычынай агранічэньня гэтых правоў“.

„Усе жыхары Польскага Гаспадарства маюць права вольнага вызнаваньня, як публічна, так і прыватна, свае веры і выкананьня правілаў свае рэлігіі ці абраду“...*)

*) Ustawa Konstytucyjna z dnia 23-go kwietnia 1935 r. z uwzględnieniem w mocy pozostałych artykułów z 17.III.1921. Artykuły 109, 5, 7 i 111.

А знача, мы маем права працаваць на роднай беларускай культурнай ніве і разьвіваць, узбагачваць яе. І нашым абавязкам ёсьць ісьці наперад, да сонца, тварыць новае культурнае, лепшае жыцьцё, асабістае і грамадзкае. Ня маем мы, праўда, сваіх культурных і асьветных арганізацыяў, якія ў працы гэтай многа нам памаглі-б. І фактычна свая арганізаваная культурная праца ў належным разьмеры і размаху, з незалежных ад нас прычынаў, сяньня бадай-што выключана. Дзеля гэтага трэба шукаць новых дарог, новых спосабаў; іх ужо шмат хто знайшоў, аб іх і мы ўжо ня раз пісалі — гэта шлях *саматужніцкае самаасьветы.*

У першую чаргу трэба, пры помачы беларускіх лемантароў „Першыя зярняткі“ і інш., пааднаночна, ці малымі групамі (да 8 асоб) *вучыць дзяцей беларускае граматы. Трэба выпісваць беларускія кніжкі і часапісы*, уважна іх чытаць і пашыраць, ладзіць супольнае сяброўскае чытаньне кніжак і дыскусіі. Пры помачы кніжак і газэт мы пазнаем сьвет, здабываем сьвятло, разьвіваемся, можам навучыцца лепш і больш культурна жыць.

Старэйшая моладзь павінна старацца, каб хоць час-ад-часу *наладзіць беларускае прадстаўленьне, лекцыю, канцэрт беларускае песьні і г. д.* Гэта можна зрабіць пры помачы „Пажарнае Ахвотніцкае Стражы“, якая існуе бадай у кожнай вёсцы. Беларускае прадстаўленьне, ці канцэрт, заўсёды дасьць нейкі даход, які можна пусьціць на гэтую-ж патрэбную пажарную стражу, або на закуп новых беларускіх кніжак.

Старэйшая моладзь павінна ўжо цікавіцца і эканамічнымі справамі. Трэба знаёміцца з *коопэрацыяй,* закладаць беларускія коопэратывы, глядзець каб яны добра працавалі і разьвіваліся, а пры коопэратыве можна залажыць *бібліятэку-чытальню.*

Нельга забывацца аб тым, што яшчэ ў нас многа ёсьць людзей нясьведамых. Іх трэба *ўсьведаміць,* разьясьніць ім, што ў іхнім-жа і нашым агульным інтарэсе культурным і **эканамічным** ёсьць, каб любілі мы адзін другога, свой край, сваю мову, звычаі, песьні, каб трымаліся цьвёрда свайго, каб *не зракаліся свайго беларускага імя.*

Ня гледзячы на непаводжаньні, ня можна забываць аб *патрэбе роднае беларускае школы,* а ўсьцяж яе дамагацца. Трэба так-жа *дамагацца роднае мовы ў царкве і касьцеле.*

У працах гэтых ня можна аглядацца адному на другога. *Кожны павінен быць ініцыятарам — пачынальнікам і арганізатарам!* Кожны павінен працаваць для сябе, бо бяз нас і для нас могуць зрабіць труну. — Усе няпраўныя і безпадстаўныя перашкоды трэба выцягваць на сьвятло, аб іх перадусім трэба пісаць у беларускія рэдакцыі.

Дамаганьні, хоць-бы безрэзультатныя, і культурная беларуская праца ўзмацоўваюць беларускі адраджэнскі рух, беларускі цэнтр і прымушаюць сільных гэтага сьвету лічыцца з нашымі імкненьнямі. Культурная праца, асьвета, коопэрацыя вядуць нас да лепшае будучыні.

Я. Н.

## Немцы аб савецкіх уваружэньнях

У афіцыяльным органе нямецкага міністэрства вайны, часапісе „*Wehrmacht*“ — у нумары за месяц сьнежань 1937 г. — паявіўся вельмі цікавы артыкул аб савецкай арміі.

Паводле нямецкіх знаўцаў, каторыя працуюць у рэдакцыі гэнага часапісу, савецкая армія ёсьць вельмі сільнай. У часе супакою мае яна два мільёны жаўнёраў, а ў часе вайны 10 мільёнаў. Пры тым, армія гэта вельмі добра сарганізавана. З савецкай арміяй супрацоўнічаюць розныя поўвайсковыя савецкія арганізацыі, якія маюць 15 мільёнаў сяброў, каторыя могуць быць пакліканыя на выпадак вайны ў рады ваюючых. І гэтая вялізарная маса людзей, паводле нямецкіх знаўцаў, таксама быццам добра сарганізаваная.

Савецкая ваенная тактыка прадбачыць перад усім атаку і да яе прытасавана тэхнічна. Ніводнае войска на сьвеце — піша „Wehrmacht“ — ня мае гэтулькі танкаў, як савецкае. Бадай усе дывізіі на захадзе СССР зматарызаваныя і ўмела вымуштраваны да наглых удараў. Побач дывізіяў змотарызаваных ёсьць так-жа дасканальна вымуштраваная кавалерыя.

У сучасны мамэнт Саветы маюць 8.000 самалётаў. Толькі ў 1936 г. збудавана 6.000 новых апаратаў, каторыя часткова замянілі старыя самалёты і ўзмоцнілі савецкую паветраную флёту. Калі гэтак хутка далей будзе разбудоўвацца савецкае лятунства, дык у канцы 1938 г. СССР будзе мець каля 15,000 самалётаў. Савецкі лятунскі промысел стаіць быццам вельмі высока.

Гэткі артыкул „Wehrmachtu“ выклікаў вялікае ўражаньне і ён быццам ёсьць праявай, што нямецкая армія імкнецца да згоды з Саветамі. Артыкул гэты мае быццам быць перасьцярогай нямецкіх ваенных знаўцаў тым нацыянал-сацыялістычным паліты·кам,якія думаюць аб вайне з СССР.

Так пісалі аб савецкай арміі нямецкія ваенныя знаўцы, і так пасьля аб гэтым разважала польская прэса.

Уважаем, што ў ацэне сілы савецкае арміі прапушчаны адзін вельмі важны мамэнт, а іменна: настрой насельніцтва адносна пануючага ладу і пануючай улады. Ня можна забывацца, што савецкая армія — гэта збор людзей розных нацыянальнасьцяў. Там апрача расейцаў ёсьць: беларусы, украінцы, грузіны і шмат іншых. Дык ці трэба думаць і пытацца: як будуць ваяваць беларусы, украінцы, грузіны і іншыя, калі іхнія нацыянальныя перакананьні, любоў да свайго народу, калі іхнія паэты,пісьменьнікі, іхняя культура — будуць прасьледаваныя... У такіх мамэнтах прасьледаваныя народы будуць думаць аб выключна сваіх нацыянальных справах, аб бунце, помсьце і г. д. Можа хто скажа, што на гэта ёсьць дысцыпліна.— Праўда, гэта важны мамэнт, аднак трэба памятаваць, што на штыкох доўга ня ўседзіш...

**Я—к.**

## Miacielica

*Viecier vyje, skoblić, płača,*
*Ūjecca, viercicca-vichryć,*
*To tałočycca, to skača*
*J śvistam-pośvistam lacić.*
*Śnieh daje, daje i krucić*
*Sieje-vieje i pylić, —*
*Praniasiecca — znoй zamucić*
*I tumanicca-imblić.*
*Viecier-sivier dźmie i duje, —*
*Ū dźviery, ŭ vokny b'je, bubnić,*
*To nad strechami bušuje,*
*To u kominie budzić.*
*Śnieh-miacielica šybaje —*
*To pa šybach šamaścić,*
*To ŭ padstreššy bje-rynaje,*
*To pa vulicy pylić.*
*Viecier jenčyć, zavyvaje,*
*Viercić, krucić i vichryć,*
*Ściužaj ciśnie i prajmaje*
*Chaładziečaju, zimić.*
*Śnieh daje, i mucić,*
*Sieje, syple i pylić,*
*Šuhavieja-zamieć krucić,*
*Cely śviet ažno kuryć!*

*UŁAD-INICKI.*

**Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy.**

# Umovy i zahady nieabchodnyja dziela zdaroŭja

### Adžyŭlańnie

Čaŀaviek jeść dziela taho, što hałodny, kab mahčy pracavać. Redka chto dumaje, što maje jon jeści. Kožny jeść toje, što maje, ci što jamu dali. Kožny z nas žyvie j nia dumajučy j nie hadajučy, što nia kožnaja ježa dobraja, što kab čaŀaviek nadta smašna jeŭ, dy mieŭ ježu nadta adnastajnuju, dyk nia hledziačy na heta abniadužaŭ-by, moh-by na't ciažka zachvareć, a na't i pamierci. I heta ŭsieńka nia dziela taho, što taja strava była-b niejkaja papsavanaja, ci nieŝta takoje, a prosta dziela taho, što našaja strava musić mieć svoj *asablivy skład:* treba, kab u joj byli roznyja składovyja *častki*, jakija nieabchodnyja dziela arhanizmu. U pryrodzie hetki ład i paradak, što nia hledziačy na ŭsie klasavyja padzieły ci inšyja sacyjalnyja niehadzi, kožny na't najbiadniejšy čaŀaviek maje mahčymaść zdabyć takuju stravu, jakaja nieabchodnaja dziela jahonaha arhanizmu.

Jakija-ž heta tyja składovyja častki, biez jakich strava budzie *niekarysnaju?* U kožnaj stravie, u adnej ŭ bolšaj, u druhoj u mienšaj kolkaści, budziem бačyć *białok, vuhlavody, kłustaść, vadu, mineralnyja soli* i jašče asablivyja substancyi h. zv. *vitaminy.* Kožnaja z henych składovych častak maje svajo pryznačeńnie ŭ arhaniźmie.

*Białok* — patrebny dziela rostu j adbudovy kletak čaŀaviečaha cieła. *Kłustaść* daje patrebnaje ciapło i enerhiju arhanizmu; u kłustaści adnačasna ležyć zapasny byccam kapitał arhanizmu; kłustaściu čaŀaviek adžyŭlajecca, kali niama novaha transpartu jady (adtul i prykazka „pakul kłusty pachudzieje, dyk chudy zdochnie“ — chudy nia mieŭ z čaho žyć, nia mieŭ jon značycca zapasu enerhii). Kłustaść adnačasna sprycyniajecca da pryhožaha vonkavaha vyhladu čaŀavieka, jana robić tyja bolš ci mienš zaakruhlenyja formy ŭ ludziej, jakija vielmi važnyja dziela estetyčnaha j harmoničnaha vonkavaha vyhladu.

*Vuhlavody* patrebnyja dziela pracy. Pry niedachopie kłustaściaŭ zaŭsiody vuhlavody ich zastupacimuć. Z vuhlavodaŭ biaruć ciahlicy (muskuły) patrebnuju im enerhiju na toje, kab mahli ściahvacca j raściahvacca, a značycca kab čaŀaviek moh rabić rabotu.

Dyk voś dziela zdaroŭja čaŀavieku patrebnyja ŭ stravie henyja składovyja častki. Jak užo my kazali, niama takoje vialikaje biady z usim hetym, jak



## Зімовая ноч

*Разьвітаўся з сонцам вечар чорнабровы,*
*усьміхнуўся ночцы, стаў запальваць зоры;*
*і рассыпаў пэрлы у прастор блакітны,*
*заіскрыў агнямі залатыя ніткі.*

*І з-за лесу, гораў, выплыў ясны месяц*
*і стаў гаспадарыць над палямі, лесам;*
*загарэліс іскры на сьнежных раўнінах,*
*сыпнуліся зоры на лясы, даліны.*

*І каротка рэха ціха замірае*
*зорным срэбрам месяц вёскі залівае;*
*ды крадзецца ціха, каля хат вясковых,*
*хоча ён пагляну́ць на галодных, голых.*

*А мароз сярдзіты закрыў лёдам шыбы,*
*каб ня мог угледацца месяц да сялібы;*
*як сінеюць дзеці у трухлявай хаце*
*і як над калыскай ціха плача маці.*

*П. ГРАНІТ*

Зачэпічы, 11.I.1938.

## ІДЗЁМ..

*Ад вечнай бядоты,*
*Ад соннае цьмы*
*Праз пушчы балоты,*
*Праз нетры ламы —*
*Да вобліку яснага раньня.*

*Пад гул непагоды*
*З насунуўшых хмараў*
*Ідзём пешаходам*
*Па сонных абшарах —*
*Новаму Дню на спатканьне.*

*АРКАДЗЬ ЗАРАНКА*

heta mahło-b prydavacca na pieršy pahlad. Usieńka patrebnaje nam majem u najbolš raspaŭsiudžanych stravach. Białok znachodzicca ŭ miasie j rybie, u małace, jajkach, chlebie, bulbie. Vuhlavody znachodziacca ŭ miasie, fruktach, bulbie, jarynach, harosie, fasoli, muce j ŭ pieršuju čarhu ŭ chlebie. Soli adžyŭčyja, z jakich najvažniejšyja soli vapny, fosfaru, žaleza, chloru arhanizm maje častkava ŭ pitnoj vadzie j u roznaj kolkaści ŭ jarynach.

Usie henyja składovyja častki ŭ roznych stravach buduć nie ŭ adnolkavaj kolkaści, dyk dziela hetaha j važna, kab ježa nia była adnastajnaju a *roznajakaju.*

Ježa sa stravaŭ idzie ŭ stravatraŭčy aparat, adtul u kroŭ, jakaja ***raznosić*** usio patrebnaje pa ciele. Darosłamu čałavieku pry fizyčnaj pracy na adzin dzień patrebny pryblizna hetulki składovych častak praduktaŭ: *130* hramaŭ biełkavatych materyjaŭ, *84* hramy kłustaściaŭ, *404* hramy vuhlavodaŭ i *25* hramaŭ adžyŭčych solaŭ.

Aprača nazvanych składovych častak u stravie vielmi važna, kab byli ŭ joj jašče asablivyja ciely h. zv. *vitaminy.* Navukovyja doślady j praktyčnyja spaściarohi pakazali, što čałavieka nia možna pražyvić ani adnym tolki čystym białkom, ani vuhlavodami, ani kłustaściu, kali adnačasna ŭ stravie nia budzie henych karmavych substancyjaŭ—vitaminaŭ.

Jaki ich chimičny skład, adkul jany biarucca, na jakim šlachu jany vyklikajuć svoj upłyŭ na čałaviecki arhanizm — dahetul astajecca jašče niaźviedanaju spravaju. Viedajem adno tolki, što arhanizm nia maje ich u sabie i što jany łučyŭšy ŭ arhanizm nikoli doŭha ŭ jom nie astajucca. Dziela hetaha treba davać biazupynna čałavieku vitaminy sa stravami. Niedachop ich ci poŭnaja adsutnaść vyklikaje spynieńnie rostu ŭ arhanizmach maładych, vaha cieła mienšaje, prapadaje achvota da jady i mohuć prajavicca roznyja chvaroby, prykładam ***škorbut, beri-beri*** i h. d.

Chvarobu beri-beri, što vyklikaje kanvulsii i ŭ kancy parališ ruk i noh, nahladali ludzi ŭ Azii. Pryčyna henaje chvaroby była pačatna nadta ciomnaja. Nahladańnie pakazała, što chvarejuć na beri-beri tyja ludzi, jakija jeli vyklučna, jak heta časta byvaje ŭ Azii, ryž dobra ačyščany ŭ novamodnym młynie, zaviedzienym dziela narodu miascovaha amerykancami. Tyja-ž, što jeli horš ačyščany ryž, nie chvareli. Lohka było dalej užo dahadacca, što ŭsia chitraść u henych ryžavych ***votrubach.*** Kali da ačyščanaha ryžu pačali dadavać krychu votrubaŭ dyk chvaroba prapadała. Zamiest votrubaŭ možna było davać droždžaŭ, na't u najmienšaj kolkaści.

Ahułam usie ziarniaty biaz łupinki nia majuć u sabie vitaminaŭ.

## Z biełaruskaha žyćcia

**„Narodnaj Krynicy“ vychodzić ułady nie pazvolili.** Na novuju sprobu biełarusaŭ vydavać „Narodnuju Krynicu“ ŭłady i sioleta adkazali zabaronaju. Pryčyny padany tyja-ž, što i ŭ prošłym hodzie, što ŭžo niechta pieršy dumaje vydavać biełaruskuju hazetu pad hetkim nazovam. Ad hetaj zabarony padany rekurs u Vilenskaje Vajavodztva.

**Uznoŭ zaniamoh.** Ks J. Siemaškievič, biełaruski paet, jaki apošnim časam pracavaŭ na parafii, uznoŭ pavažna zaniamoh i vyjechaŭ ratavać zdaroŭje ŭ Zakapanaje.

**Nabaženstvy dla Biełarusaŭ** katalikoŭ u kaściele śv. Mikałaja ŭ Vilni,paśla śviatočnaha pieraryvu, pačalisia ŭznoŭ i adbyvajucca, jak zvyčajna, u kožnuju niadzielu i śviata a hadzinie 10-taj.

**Biełaruskija kaladki** piaje chor pad kiraŭnictvam R. Šyrmy, u časie Słužby Božaj u Pračyścienskim Sabory ŭ Vilni.

**Biełarusy ŭ Łatvii.** 16.I.1938 h. Biełaruski Vučycielski Chaŭrus ŭ Ryzieładziŭ viečar pryśviačany pamiaci biełaruskaha piśmieńnika Vincuk Dunin-Marcinkieviča, ad dnia naradzinaŭ katoraha ŭ śniežni miesiacy 1937 h. minuła 130 hod. Lekcyju ab V. D.-Marcinkieviču pračytaŭ hram. M. Dziamidaŭ. Vystupaŭ tak-ža hram. S. Sacharaŭ. Paśla adbyłasia harbatka i skoki. Na viečary najbolš było mcładzi.

## Rezalucyi „Wici“ i „Siewu“

Niadaŭna ŭ Varšavie adbylisia ahulnyja hadavyja źjezdy delehataŭ najvialikšych arhanizacyjaŭ polskaje sialanskaje moładzi „Związku Młodzieży Wiejskiej „Wici“ i „Związku Młodej Wsi“, jaki vydaje časapis „Siew“ i dziela hetaha ahułam „Zw. Mł. Wsi“ nazyvajuć „Siew“.

Jak źjezd „Wici“ tak i „Siewu“ pryniaŭ vialikija rezalucyi. I „Wici“ i „Siew“ zajavili, što jany stajać na hruncie demakracyi. Cikava adnak, što ani adna, ani druhaja z hetych arhanizacyjaŭ u svaich rezalucyjach ničahusieńka kankretnaha nie skazała ani ab Ukraincach, ani ab Biełarusach. A treba viedać, što Ukraincy i Biełarusy heta najbolšyja likam nacyjanalnyja mienšaści Polskaha Haspadarstva, u jakim ahułam nac. mienšaści stanoviać treciuju jahonuju častku. Niaŭžo-ž ani „Wici“, ani „Siew“ spravaju hetaju nia cikaviacca. Niaŭžo-ž ich nia cikaviać adnosiny ŭładaŭ da nac. mienšaściaŭ i nastroi nac. mienšaściaŭ da Polskaha Haspadarstva? Cikava...

*Да гэтага нумару далучаем „przekazy rachunkowe“ і просім усіх, хто дагэтуль не заплаціў, неадкладна заплаціць падпіску за „Шлях Моладзі“ за 1938 г., бо ў працiўным выпадку высылка ім „Шляху Мол.“ будзе стрымана.*
*Адм. „Шл. Мол.“*

## Z žyćcia bratnich narodaŭ

### U Litoŭcaŭ

**Spynili dziejnaść Lit. T-va śv. Kazimira.** Prad novym hodam administracyjnyja ŭłady spynili dziejnaść Lit. T-va śv. Kaziemira. „Kur. Wil.“ pisaŭ, što stałasia heta za dziejnaść hetaha T-va supiarečnuju z pravam i zahražajučuju biaśpiečnaści i publičnamu paradku.

**Studencki ściah u muzej.** Litoŭskija studenty, u źviazku z zabaronaj administracyjnych uładaŭ nasić uniform (adnastroj), svoj studencki ściah addali ŭ muzej.

**Revizija ŭ T-vie «Rytas».** 12.I pradstaŭniki Vilenskaha Starastva revidavali centralny ŭrad litoŭskaha praśvietnaha T-va „Rytas“.

**Hość z Kłajpedy.** Nadniach adviedaŭ Vilniu i Varšavu viedamy litoŭski piśmieńnik i dziejač Vidunas, jaki stała žyvie ŭ Kłajpedzie.

### U Ukraincaŭ

**20-ja ŭhodki abvieščańnia Niezaležnaści Ukrainy.** 22.I siol. ukrainskaje hramadzianstva ŭračysta budzie śviatkavać 20-ja ŭhodki abvieščańnia niezaležnaści Ukrainy. Było heta 22.I.1918 h. u Kijevie.

**Jubilej «Діла».** 14.I.1938 h. minuła 50 hod ad vychadu pieršaje štodziennaje ukrainskaje hazety, katoraja vychodzić i ciapier u Lvovie. Hazeta heta ŭ žyćci Ukraincaŭ adyhryvała i adyhryvaje vialikuju rol.

---

Vitaminy, zaležna ad taho, jakuju *chvarobu* vyklikajuć (značycca vyklikaje chvarobu niedachop vitaminy), rozna nazyvajucca. Prykładam vitamina, jakaja pamahaje na beri-beri, zaviecca *antineŭrytyčnaju.*

Niedachop inšaje vitaminy vyklikaje chvarobu *škorbutu.* Charakterna dziela henaje chvaroby, što na sklizistych pavałokach rotavaje padzi pajaŭlajucca puzyrki, paśla hnijuć dziasny, zuby ruchajucca j vypadajuć. Mienš časta nahladajecca hena chvaroba na skury. Vałasy tady vypadajuć, arhanizm robicca mała adpornym na roznyja škodnaści. Na ciele pajaŭlajucca skuły, badziulki, chvarejuć vočy.

Analohična (padobna) da nazovy vitaminy procineŭrytyčnaje pry beri-beri, vitamina, jakaja baronić ad škorbutu zaviecca, *prociškorbutavaju.* Znachodzicca jana ŭ zialonych čaściach raślinaŭ, u fruktach. Z fruktaŭ maje jaje najbolš u sabie *cytryna.*

Ab hetaj vitaminie mahčyma što čuŭ niechta j na našaj vioscy. Raskazvajuć, što na apošniaj vajnie ŭ Karpatach, kali nia było zimoju padvozu śviežaje stravy i ludzi žyli kanservami j sucharami, dyk časta ŭžo paśla dvoch tydniaŭ pačynali ludzi chvareć na škorbut. Inšym razam možna było pačuć, što daŭniej, kali padarož u Ameryku tryvała daŭžej, dyk pad kaniec darohi ludzi pačynali plavać kryvioju z napuchšych i balučych *dziasnaŭ.* Dy što kazać daloka. Staryja ludzi j ŭ nas mo' jašče pomniać, što nadta pabožnyja, chočučy sušyć u poście, jeli vyklučna chleb z vadoju dy jašče krychu bobu z harocham. Kala Vialikadnia ŭ tych ludziej možna było bačyć usie nadta charakternyja prajavy škorbutu.

Z henych prykładaŭ bačym, što ad škorbutu nie ratuje chleb z votrubami. A chvarejuć na jaho ludzi ŭ takuju paru, kali niama *zialonaha ŭ ježy.* Zatoje pamahaje sok z jahadaŭ ci tak z jakoje harodniny. Pakazvaje heta na toje, što vitamina prociškorbutovaja, inakš na jaje kažuć *„vitamina C“*, raspuskajecca ŭ vadzie.

Apračа henych dźvioch vitaminaŭ jość i inšyja. Adna z ich vyklikaje *rost* maładych arhanizmaŭ, choć nadta patrebnaja j darosłym. Vystupaje jana ŭ dźvioch formach. Adna forma, h. zv. *vitamina A*, raspuskajecca ŭ kłustaściach, jość jana ŭ śviežym maśle, alejach (u sale jaje niama) i *vitamina B*, jakaja raspuskajecca ŭ vadzie i ŭ vialikaj kolkaści znachodzicca ŭ raślinach, puskajučych rastki. Z vyšejskazanaha kožny bačyć, što najbolš vitaminaŭ jość u *raślinach.* Zrazumieła dziela hetaha, što nikoli nia budzie zamała harodniny ŭ ježy ludziej, asabliva małych ci darastajučych dziaciej. Usie tyja małyja dzieci z kryvymi nožkami, vialikimi trybuškami buduć jarkimi prykładami niedachopu vitaminaŭ. *(d. b.)*

*Зіма...*
*Зямлю накрыла і — пануе!*
*У сьнягох пахілыя касулі сонца затапіла...*
*Цяпер зямля — халодная магіла,*
*а неба – неба сьлёз ня бачыць—стогнаў не пачуе!*
*Дзе-ж людзі?*
*Ці жывуць — хто ведае...*
*І блудзіць*
*над полем пусты вецер... Болі тушыць —*
*каб не схапіліся, ня кінуліся ў неба,*
*не затрасьлі зямлёй!...*
*І стомленыя душы*
*цярпеньнем кормяцца—гаротным, цяжкім хлебам.*
*І многа, многа трэба рук магутна-цьвёрдых,*
*каб ледзяныя крыгі разламаць —*
*І многа трэба сэрцаў палыняных,*
*каб сьцюжу-ноч прасьветліць і сагрэць...каб жыць!*

*А, БЯРОЗКА.*

## Ад каго паходзіць наша хатняя жывёла

Мы ў гаспадарцы гадуем: коні, каровы, авечкі, козы, сьвіні. Пададзём тут у вышэй пададзеным парадку радавод нашай жывёлы.

*Конь.* Наш конік мае вельмі далёкі радавод. Калісьці, у глыбокай старадаўнасьці гадаваўся ён дзіка на сьцяпох Азіі. У дагістарычныя часы прысвоілі яго плямёны (належачыя да групы Сцытаў ці Скіфаў), ад каторых навучыліся асвойваць плямёны Заходняй Азіі, належачыя да групы Армян (нешта каля 3 тысяч гадоў да Нар. Хрыста), а ад Армян на пачатку 2000 гадоў да Хрыста перайшла гадоўля коніка Бабілёніі, з Бабілёніі да Эгіпту, а стуль потым і да нас праз іншыя рукі. Дасьледаваў гісторыю гэтага каня вучоны Антоніус. Конік гэты ў навуцы называецца тарпан. Конь гэта малы. У клубе мае ўсяго нейкіх 133см. Масьць дзікая, зблiжаная да колеру поля, стэпу. Праз увесь хрыбёт цягнецца характэрная цёмная паласа. У стане дзікім гадаваўся йшчэ ў Расеі да 1866 году. Наступнікі яго асталіся на Беларусі, Літве, Украіне, Румыніі, Альбаніі, Югаславіі і Грэцыі. Коні пэрскія таксама паходзяць ад торпана, але дзякуючы штучнай гадоўлі чалавека яны ўжо шмат зьмяніліся. Пэрсы падрасоўвалі іх (дамешвалі заводнай ці расавай крыві) на працягу блізу 2,500 гадоў. Ад пэрскіх коняў выйшлі арабскія коні. Арабскія коні лічацца адными з найбольш шляхотных коняў, маюць яны адну характэрную прымету— хутка і доўга бягуць. Бо ёсьць яшчэ ангельскія коні вельмі шляхотныя, але яны адзначаюцца хуткім бегам на кароткі час. Наш конь таксама мае свае дадатнія бакі. Ён ёсьць невялічкі, але вельмі вытрывалы. Зьесьць ён і горшую пашу але ад работы не адкажыцца. У часе вайны Немцы маглі пераканацца аб вартасьцях нашага каня. Іх цяжкія артылерыйскія коні не маглі так справіцца ў нашых балоцістых мясцох, як нашы коні, малыя, рухлівыя, вытрывалыя. Таму Немцы і назвалі нашага каня панпфэрд (пфэрд—панямецку конь).

Апрача малых коняў, якія, праўду кажучы, у нас пераважаюць, маем мы таксама коні цяжэйшыя. Называюцца яны ў навуцы—халоднакрывістымі. Халоднакрывістыя коні гадуюцца пераважна на Заходзе Эўропы. Да найлепшых залічаюцца ангельскія шайры, бэльгійскія фляманды, францускія пэршэроны і расейскія біцюгі. Паміж гэтымі двумя формамі найменшай і найбольшай ёсьць некалькі дзесяткаў рас.

*Карова.* Ёсьць дзьве выходныя формы агулам усіх кароў: тур і кароткарогая цэнная карова. Ад тура паходзяць усе нашы высокамалочныя расы, ад кароткарогай нашы каровы простыя.

*Авечка.* У нашым краі пашыраныя „верасавыя“ авечкі. Паходзяць яны, паводле вучоных, ад муфлёна, які цяпер жыве толькі на астравах: Корсыка і Сардынія. Калісьці быў і ў Сярэдняй Эўропе, але загінуў.

*Каза.* Козы нашы ёсьць патомкамі дзікой формы казы, якая

---

Мікалай Караленка

## Беларускі Загранічны Архіў у Празе

У чэскай Празе, напроціў „Граду“ (замку) — сялібы Прэзыдэнта Рэспублікі, знаходзіцца стары, бо ўжо ад часу яго залажэньня мінае больш як 350 гадоў, г. зв. Тосканскі Палац. Але для нас беларусаў ня столькі ён цікавы сваёй архітэктурай, ці гістарычнай мінуўшчынай, колькі тым, што знаходзіцца там „Беларускі Загранічны Архіў.“

І дзіўная рэч, хоць архіў той ёсьць шырака папулярны ня толькі ў Эўропе, але і ў Амэрыцы, дык аднак-жа сярод беларусаў, жывучых у межах Польскага Гаспадарства, мала аб ім хто ведае. Дзеля гэтага думаю, што варта зазнаёміць шырэйшыя кругі нашага грамадзянства з мэтамі гэтага архіву, ягонымі працамі і зьместам.

Архіў гэты існуе ад 1928 г., а заснованы ён быў беларускай эміграцыяй. Знаходзіцца ён пад пратэктаратам Міністэрства Загранічных Справаў Чэхаславацкай Рэспублікі. Ініцыятарам і 1-шым загадчыкам яго быў праф. Мікалай Вяршынін(†1934г.), нэстар беларускай эміграцкай калёніі ў Празе Чэскай. Пасьля сьмерці праф. Вяршыніна загадчыкам Архіву стаўся другі беларус, д-р Тамаш Грыб. Мэтай архіву ёсьць зьбіраньне і перахоўваньне друкаваных, а таксама і рукапісных матарыялаў з гісторыі беларускага вызвольна-адраджэнскага руху, інакш гаворачы, гэта ёсьць архіў вызвольнага змаганьня беларускага народу. Цэлы архіў мае чатыры галоўныя аддзелы.

Першы, гэта найбагацейшы аддзел дакумантаў, які цяпер налічывае ўжо 15.000 пазыцыяў. Чаго там няма! І архіўныя матарыялы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, так-жа дыплёматычных місіяў ураду Б. Н. Р., і розныя рукапісныя памятнікі, успаміны беларускіх дзеячоў, іхнія аўтобіографіі і карэспандэнцыі, архівы беларускіх арганізацыяў, установаў, палітычных партыяў і г.п.

Другі аддзел гэта бібліятэка беларусазнаўства — беларускія выданьні аб Беларусі ў іншых мовах. Аддзел гэты рэпрэзэнтуецца можа за бедна, але тут віна нас самых. Больш як скромны бюджэт Беларускага Загранічнага Архіву не дава-




### Не падарозе.

*Наваградчына.* У Навагрaдку ў кожны панядзелак і чацьвер адбываецца кірмаш. Калі зьбяруцца ў места сяляне, тады быццам з неба зьяўляюцца нейкія чужыя па духу і выглядзе нам людзі, апранутыя ў добрыя польты, капялюшы і рукавічкі і на цэлае горла крычаць: „Обыватэлю, не купуй у жыда" і яшчэ мацней шыя словы. Але нашыя сяляне добра ведаюць, каму патрэбны байкот і сабатаж, дык не зьвяртаюць увагі на чыстую вопратку агітатараў. — „Крычыць, няхай сабе крычыць, забаліць горла, дык перастане, а мы будзем рабіць сваё" — гавораць сяляне. Сяляне знаюць ужо, што праціўжыдоўскія выступленьні ніякай карысьці Беларускаму Народу не прынясуць, хіба толькі шкоду. Дык кіньце паночкі, нявaрта марозам узімку горла марозіць, а то можна і прастудзіцца... А нам з вамі не падарозе. *Люка.*

ў навуцы называецца *capra prisca*. Чэрап гэтайказы знайшлі ў раскопках каля Кракава і ў Усходняй Галіччыне.

*Сьвіня.* Ёсьць тры выходныя формы сьвіней: Дзік сярэдня-эўрапэйскі, дзік берагоў Міжземнага мора і дзік Азіі. Ад гэтых форм пайшлі нашыя сьвіньні. У нас, у бядней шых ваколіцах гадуецца пераважна простая сьвіня, якая зьбліжана трохі да дзіка сярэдня-эўрапэйскага. Сьвіні гэтыя вялікія і плодныя. Сьвіні азіяцкія затое хутка дасьпяваюць і хутка ўкормліваюцца. Таму і наступіла скрыжаваньне гэтых форм. — Цяпер шмат дзе ўжо ёсьць у гадоўлі у нас прадукт гэтага крыжаваньня. Адрозьніць іх можна ад простых сьвіней па тым, што маюць карацейшыя ногі, мякчэйшую шчаціну і даволі белую скуру. **П. З.**

### Zialonki chočuć svajho!

*v. Zialonki, Łyntupskaj voł, Śviancianskaha pav.* Na vioscy adčuvajecca vialikaja patreba biełaruskaje arhanizacyi, jakaja nas łučyła-b i była źviazana z patrebami našaha žyćcia. Da takich arhanizacyjaŭ naša moładź i starejšyja achvotna zapisalisia-b i paśla ŭ ich pracavali-b. Naša vioska davoli śviedamaja. Apošnimi hadami moładź sarhanizavała razam z starejšymi „Pažarnuju Straž," katoraja 9 studnia siol. ładziła biełaruska-polskaje pradstaŭleńnie. Stavili biełaruskuju kamedyju „Mikitaŭ łapać." Pradstaŭleńnie ahułam udałosia. Prykra tolki było hladzieć na mnohapadpitych. Arhanizataram pradstaŭleńnia ŭsie ščyra ŭdziačnyja. Pažadana było-b, kab biełaruskija pjesy byli adyhryvanyja čaściej, tolki kab biez harełki. Zialonski.

## *Што чуваць?*

— Найбольшай сэнсацыяй апошніх дзён у палітычным жыцьці **Польшчы** была зьмена павадыроў „ОЗН" („Обозу Зедночэня Народовэго"). Дасюлешні павадыр гэтай партыі палк. Коц падаўся ў адстаўку, ягонае-ж месца заняў ген. Ст. Скварчынскі. Ходзяць чуткі, што „ОЗоН" пойдзе быццам больш на лева.—

— Пад Тэруэлем у **Гішпаніі** перамаглі ўрадаўцы, яны адабралі ў паўстанцаў цэлае места Тэруэль, якое зьяўляецца важным ваенным пунктам і каля яго йдзе далей заўзятая барацьба.—Былы старшыня баскійскага ўраду заявіў у Парыжы, што ген. Франко сыстэматычна йдзе да зьністажэньня баскійскай моладзі і дзеля гэтага засудзілі паўстанцы на сьмерць 1000 маладых баскаў. Ад сьмерці выратаваў гэных баскаў гішпанскі ўрад, які заграізіў, што расстраляе гэтулькі-ж паўстанцкіх пленьнікаў. З гэтай прычыны прысуд ня выкананы і вядуцца гутаркі аб вымене вязьняў.

— **Японія** далей займае Кітай і сарвала ўжо дыплёматычныя зносіны **з кітайскім урадам Чан-Кай-Шэка,** каторы падгатаўляе контратаку супроць Японцаў.

— **Італія** прыгалублівае да сябе **Аўстрыю і Мадзяршчыну** і ў гэтай справе адбылася ў Будапэшце канфэрэнцыя прадстаўнікоў гэтых гаспадарстваў. Італія хоча таксама прыцягнуць да сябе **Румынію,** якая ўзыйшла на фашыстаўскі шлях і граміць

ляе на купляньне кніжак, а ахвярнасьць нашага грамадзянства і што дзіўней, з цэнтраў беларускай выдавецкай працы (Менск, Вільня), ёсьць, трэба прызнацца, вельмі малая.

Трэці аддзел архіву, гэта аддзел пэрыядычных выданьняў — часапісы, газэты, аднаднёўкі і адозвы. Адных толькі назоваў розных беларускіх газэтаў, камплекты каторых знаходзяцца ў Архіве — ёсьць 214. Але і тут аб'яўляецца нястача „грамадзкага інстынкту" нашых выдаўцоў і рэдактараў, бо як мне расказываў загадчык Архіву, гр. д-р Грыб, прышлюць першы, другі нумар, пасьля перарыў, ізноў падашлюць дзесяты нумар, або і зусім больш ня прысылаюць.

Чацьверты аддзел Архіву, гэта беларуская бібліографія — гістарычная бібліографія і картатэка з усіх пытаньняў беларусазнаўства. Цяпер лічыць яна каля 12,000 пазыцыяў. І тут помач беларускага грамадзянства ў зьбіраньні бібліяграфічных матарыялаў ёсьць вельмі пажаданай.

Беларускім Загранічным Архівам цікавяцца вучоныя розных нацыянальнасьцяў і спэцыяльнасьцяў, як гісторыкі, соцыёлёгі, філёлёгі і г. п. Ня раз бывала, што знаходзілі яны цікавыя і рэвяляцыйныя рэчы, як гэта нпр. было нядаўна з адным ангельскім вучоным, соцыёлёгам, каторы займаецца дасьледжываньнем сялянскіх рухаў у Эўропе і які знайшоў у гэтым архіве вельмі рэвяляцыйныя і арыгінальныя матарыялы адносна гэтых рухаў на Беларусі.

Можна было-б напісаць яшчэ шмат цікавых рэчаў аб працы ў архіве, урэшце падчыркнуць важнае значэньне, якое ён мае для нас і якую роль можа, а напэўна і адыграе ў будучыні, але думаю, што і без вялікіх паясьненьняў кожны з нас гэта разумее. Кончу сваю зацемку аб архіве і хацеў-бы толькі яшчэ зьвярнуцца да ўсіх братоў беларусаў з заклікам ад сябе (думаю, што кіраўніцтва Архіву ня будзе за гэта злавацца) — памагайма ў зьбіраньні матарыялаў Беларускаму Загранічнаму Архіву!

Адрыс гэтага Архіву: *Bělorusky Zahraniční Archiv v Praze IV, Loretánskè nàm 102. ČSR.*

Прага, 2.XI.37 г.

цяпер у першую чаргу Жыдоў.— Гэтым Мусоліні хоча аслабіць Малую Антанту (саюз Румыніі, Чэхаславаччыны і Югаславіі). З другой стараны Малую Антанту хочуць разьбіць Немцы,—яны цягнуць да сябе, падобна як і Італія, Югаславію. Выявілася гэта асабліва ў часе паездкі югаславянскага прэм'ера Стоядіновіча ў Бэрлін, у мін. тыдні. Як бачым, атака Італіі і Нямеччыны ськіраваная супроць **Чэхаславаччыны.**

— 12.І. сёл. у Маскве пачаліся паседжаньні **савецкага парляманту**—„Верховнаго Совета." Прад парлямантам гэтым адбылася частковая зьмена складу савецкага ўраду, на чале якога стаіць Молатаў. Кірунак ураду, ясна, не зьмяніўся. Ён ідзе далей па камуністычна-сталінскай лініі расейскага цэнтралізму і пяршынства.

— Камуністы, ня могучы далей зносіць няпрыхільнае для сябе палітыкі ўраду радыкала Шотан'а ў **Францыі**, прычыніліся да таго, што ўрад гэты падаўся ў адстаўку. Новы ўрад стварыў той-жа Шотан. Для камуністаў будзе аднак ён, здаецца, яшчэ больш няпрыхільны, як ранейшы ўрад. Народнаму фронту ў Францыі такім чынам пагражае аканчальны разрыў, бо камуністаў, як радыкалы, так і сацыялісты адсоўваюць ад сябе, закідваючы ім, што яны слухаюць прыказаў з заграніцы (з Масквы).

*jn.*

## Jašče ab kulturnaści i etycy ks. V. Hadleŭskaha

U № 1 sioleta „Biełaruskaha Frontu" jahony redaktar ks. V. Hadleŭski, dalej napadaje na „Šlach Moładzi" prypisvajučy biełaruskaj moładzi niakulturnaść u viadzieńni palemiki i palityčnuju niaśpiełaść. Ks. Hadleŭski hetym choča zakryć svaje ŭžo nia tolki słovy i sposaby, jakija sapraŭdy niekulturnyja i hrubijanskija, ale i hramadzkuju svaju nieetyčnaść da nas i svaju palityčnuju pieraśpiełaść. Bo jak-ža-ž inakš nazvać jahonyja iłžyvyja i vulharnyja napady na „Šl. Moł."? Heta, paŭtarajem, sapraŭdy presavy bandytyzm, jaki ŭ „B. Front' uvioŭ raspalitykavany, palityčna biezhramatny probaršč Hadleŭski. — Cikava, čyja heta ruka kiruje ŭsimi napadami „Bieł. Frontu" na tych, što pracujuć na biełaruskaj kulturnaj nivie?..

## Spynieńnie Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu ŭ Vilni i revizii ŭ biełaruskich redakcyjach i ŭstanovach.

15.I.1938 h. Starasta m. Vilni spyniŭ dziejnaść Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu. U tym-ža dniu ad 13 da 16 hadziny była praviedziena revizija ŭ pamieškańni na Zavalnaj 1: u Biełaruskim Nac. Kamitecie, u red. J. Paźniaka, u redakcyjach: „Chryścijanskaja Dumka", „Samapomač", „Šlach Moładzi", „Kałośsie", „Wiadomości Białoruskie", Drukarni im. Skaryny i ŭ Bieł. Kniharni „Pahonia". U tym-ža časie adbyvalisia revizii ŭ redakcyjach „Letapisu", „Bieł. Borci", u siabroŭ red. kalehijaŭ hetych časapisaŭ, hram. Ryhora Šyrmy i Mikałaja Mancevіča. Akramia taho ad hadz. 14 da 21 była zroblena dakładnaja revizija ŭ pamieškańni staršyni Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu inž. A. Klimoviča. Pry revizii zabrany niekatoryja rukapisy, piśmy i druki, a ŭ inž. Ad. Klimoviča zabrana tak-ža pryvatnaja mašynka da pisańnia—mały «Remington».

**U ks. V. Hadleŭskaha i „Biełaruskim Froncie" revizii nie było...**

### Zahad i matyvy spynieńnia Biełaruskaha Nac. Kamitetu

Starosta Grodzki Wileński — *Kopija.*
L. Dz. B—91/38. — Wilno, dn. 15.I.1938 r.

Do Zarządu Białoruskiego Komitetu Narodowego w Wilnie

DECYZJA GŁÓWNA
w sprawie zawieszenia działalności „Białoruskiego Komitetu Narodowego w Wilnie.

Na podstawie art. 72 Rozp. Prezydenta R. P. z dn. 22.III.1928 r. o postępowaniu administracyjnym (Dz. Ustaw R. P. № 36, poz. 341) oraz art. 16 i 61 Rozp. Prez. R. P. z dn. 27.X.1932 r. o prawie o stowarzyszeniach (Dz. Ustaw R. P. № 94 poz. 808)

**zawieszam działalność**

„Białoruskiego Komitetu Narodowego w Wilnie," gdyż, jak stwierdzono, wykracza ona przeciwko obowiązującemu prawu oraz zagraża bezpieczeństwu, spokojowi i porządkowi publicznemu.

**Uzasadnienie:**

Ze zgromadzonych materiałów dowodowych wynika, że działalność istniejącego w Wilnie od 1918 r. Białoruskiego Komitetu Narodowego skierowana została przeciwko interesowi publicznemu oraz sile obronnej i całości granic Państwa. W szczególności stwierdzono, że Biał. Komitet Narodowy w Wilnie:

1. dąży do zrealizowania założeń t. zw. manifestu mińskiego z dn. 25.III.1918 r., a więc stworzenia samodzielnego państwa białoruskiego w drodze oderwania od Rzeczypospolitej Polskiej części ziem północno-wschodnich, co zresztą podkreśla wyraźnie jego oficjalny regulamin;
2. w swej akcji propagandowej kwestionuje prawa suwerenne Państwa Polskiego na obszarze wspomnianych ziem;
3. współpracuje z czynnikami zagranicznymi na niekorzyść Polski;
4. współdziałał i współdziała nadal z organizacjami wywrotowymi.

Na podstawie art. 75 ust. 3 Rozp. Prezydenta R. P. o postępowaniu administracyjnym nie podaję bliższych i szczegółowszych motywów powyższej decyzji, gdyż przemawia przeciwko temu ważny interes państwowy.

Do prowadzenia spraw niezbędnych, związanych z majątkiem Komitetu, zgodnie z art. 25 prawa o stowarzyszeniach wyznaczam kuratora w osobie p. Michała Bielatko.

Od decyzji niniejszej przysługuje stronie prawo wniesienia odwołania do Wojewody Wileńskiego za moim pośrednictwem w ciągu 14 dni od daty doręczenia.

p. o. STAROSTA GRODZKI
(—) J. Czernichowski

*Pierasyłka apłačana ryčałtam.*



## Usiačyna

**Kolki hrošaŭ prakuryli kurcy ŭ Vilenščynie.** Padličana, što za pieršyja 3 kvartały 1937 hodu, u Vilenskim vajavodztvie skurana tytunu na 8,905,778 zł., z čaho na Vilniu prypadaje 4,835,391 zł. Na pravincyi najbolš prakurana kala Hłybokaha, a najmienš kala Dzisny. — Jak bačym, na biezpatrebnaje i škodnaje kureńnie vydajuć u nas ludzi ahramadnyja sumy. Cikava, kolki hetyja-ž ludzi vydajuć na knižki i hazety, katoryja čałavieku sapraŭdy patrebnyja i karysnyja?

**Maroz zatrymaŭ elektryčnyja ciahniki.** Vialikija marazy, jakija nia tak daŭno naviedali naš kraj, a taksama i Varšavu, pryčynilisia da taho, što na varšaŭskim zelektryfikavanym čyhunačnym vuźle papsavalisia i astanavilisia elektryčnyja ciahniki, jakija musieli być zamienieny ciahnikami paravymi. Heta vyklikała zrazumieły vodhuk u presie i siarod polskaha hramadzianstva...

**Paviesili 8 čałaviek.** U 1937 hodzie ŭ Polščy paviesili za kryminalnyja praviny 8 čałaviek.

**75 paviercha.** U Zł. Štatach Paŭnoč. Ameryki ŭ m. čikaho budujuć dom vyšynioj 375 metraŭ, jaki budzie mieć 75 paviercha (etažoŭ — pięter). U tych-ža Zł. št. P. Ameryki budujecca tavarny dom u katorym budzie 81 pavierchaŭ, a vyšynia jaho budzie 283 metr. Dahetul najvyšejšaj budoŭlaj na śviecie była vieža Eiffela ŭ Paryžy (Francyja), vyšynia jakoj — 300 metraŭ. Najvyšejšym-ža domam na śviecie dahetul byŭ dom Reynold Tower u Nju-Jorku (Zł. štaty P. Ameryki). Maje jon 67 pavierchaŭ, vyšynia-ž jaho 246 metraŭ.

**U Estonii praviali ŭžo ziamielnuju reformu.** 1.I.38 u Estonii zakončyli pracu źviazanuju z praviadzieńniem ziamielnaje reformy, u časie jakoje bolšyja dvary raździeleny na 910 tysiač sialanskich haspadarak. Kali heta staniecca ŭ nas?..

**„Biazbožnickaja Liha Narodaŭ“.** U 1938 h. u Maskvie pastanoŭlena sarhanizavać vialiki mižnarodny „naučny“ aboz — łahier dla moładzi 48 nacyjanalnaściaŭ. Kolkaść učaśnikaŭ maje siahać da 1.500 asob. Aboz ci kurs hety maje nazyvacca „Biazbožnickaja Liha Narodaŭ”.

## *Praktyčnyja rady.*

**Dahladajma ptušak.** Zimovyja chałady ŭsim dajucca ŭ znaki. Ad ich mnoha cierpiać i ptuški, jakich śniahi pazbaŭlajuć pažyvy, a marazy maroziać. Tymčasam ptuški heta našyja sajuźniki ŭ zmahańni z roznymi čarviakami-škodnikami našych sadoŭ. Dyk dahladajma ptušak, budujma im skrynki dla hniozdaŭ i padkormlivajma ich u čas vialikich marazoŭ i zaviejaŭ.

**Jak chavać bulbu ad marozu.** Vielmi časta zimoju viazučy z vioski ŭ miesta bulbu na prodaž byvajuć vypadki, što bulba mierźnie. Kab hetaha nia było treba miaški z bulbaju dobra nakryć sałomaj, a navierch sałomy pałažyć mokry miašok, abo pościłku. Hetki miašok ci pościłka chutka zamierzajuć i tady nie prapuskajuć praz siabie chaładu.

## *Z vydavieckaj nivy*

**„Złučeńnie“.** Pad takim nazovam sioleta ŭ Varšavie vydaviectva ŭschodniaje misii AA. Jezuitaŭ pačało vydavać biełaruski miesiačny relihijny časapis, jaki da 1936 h. vychodziŭ u Vilni p. n. „Да Злучэньня!”, a praz cely 1937 h. byŭ spynieny. Redaktarami hetaha časapisu źjaŭlajucca: a. Anton Niemancevič—biełaruski unijacki duchoŭnik z Zakanu AA. Jezuitaŭ i viedamy polski katalicki publicyst ks. Jan Urban — taksama jezuit. Takim čynam, nia hledziačy na toje, što čas. „Złučeńnie“ vychodzie łacinkaj i choć jaho mova biełaruskaja kulhaje, unijackaja akcyja ŭzmocnicca.

Pry hetym chočam adciemić dziŭnuju źjavu. — Biełarusy ŭ bolšaści pravasłaŭnyja. Katalikoŭ-łacinikaŭ daloka mienš, jašče mienš jość unijataŭ — katalikoŭ uschodniaha abradu. Tymčasam biełarusy kataliki majuć zdaŭna svoj relihijny časapis. Majuć taksama hetki časapis, jak bačym, i unijaty, majuć svoj biełaruski časapis navat metadysty, katoryja nia tak daŭno pačali pracavać siarod biełarusaŭ, a biełaruskaha pravasłaŭnaha relihijnaha časapisu niama. — Čyja ŭ hetym vina, chto pavinien pieradusim dbać ab dabro Pravasłaŭja siarod biełarusaŭ? Biazumoŭna, u pieršuju čarhu pavinny ab hetym pamiatavać pravasłaŭnyja duchoŭnyja ŭłady. My adnak bačym, što jany ab hetym zusim i nia dumajuć navat. Dyk tak jany, vidać, dbajuć i ab Pravasłaŭi...

Z. B.



**Niedaŭna adčynieny tunel Linkolna, jaki łučyć Nju-Jork z Nju-Džersejem u Amerycy. Praviedzieny hety tunel u ziamli miž inšym i pad rakoj Hudson. Praz jaho adbyvajecca kamunikacyja.**

## *Паштовая скрынка*

А. Заранку: Вершы атрымалі, дзякуем і вітаем Вас ізноў на сваіх бачынах. „Новы Год” ужо неактуальны, рэшту будзем друкаваць. Просім пісаць часьцей.

А. Жуку: Атрымалі, дзякуем. „Полацак”, „Школьны год” паправіўшы надрукуем. „Мядзьведжую акадэмію” перадалі ў „Зорку“ для дзяцей.

Ф. Вайцілёнку: Атрымалі, дзякуем, будзем карыстаць. Жадаем Вам усяго найлепшага і чакаем павароту.

М. Батуры: Карэспандэнцыю надрукуем і просім пісаць больш.

Я. Чорнаму: Адзін верш паправіўшы надрукуем, рэшта слабенькія.

Люка: Карэспандэнцыю друкуем. „Шл. Мол.” Вам праз цэлы час высылаецца акуратна,дамагайцеся на пошце. У 1937 г. мелі ад Вас толькі адну карэспандэнцыю, рэшта відаць дзесь загінула.

Пяцьдзесяцём: З Вашай пастановы зрабілі мы толькі карэспандэнцыю, інакш ня можна, з увагі на цэнзуру.

Г.Новік: Некаторыя вершы ніштосабе і будзем іх друкаваць. Радзім Вам больш зьвярнуць увагі на якасьць, а не на колькасьць, г. зн. пісаць менш, але лепш апрацоўваць.

П. Граніту: З прысланых вершаў друкуем адзін, рэшта слабыя і да друку не падходзяць. Часапіс высылаецца Вам акуратна.

M. Joviku: Vieršy Vašy i na hety raz nie ŭdalisia i drukavać ich nielha. Jość adnak miascy dobryja. Bolej pracujcie nad saboj. Paznajcie dobra bieł. movu i litaraturu, tady mo' napišacie lepš.

J. Lachoviču: Karespandencyju nadrukujem, rešta ŭsio pieradali „Chr.D “

P. Vajtulon. i M. Šnajdaru: „Šl. Moł.” Vam vysyłajem akuratna, damahajciesia na svaich poštach. My-ž u hetaj spravie źvierniemsia ŭ Dyrekcyju Pošt i Tel. u Vilni.

Zialonskamu: Karespandencyju drukujem, dziakujem. Pradmiety muzealnaje vartaści radzim pieradać u Biełaruski Muzej im. Ivana Łuckieviča: Vilnia, Astrabramskaja 9.

## Krychu śmiechu

***

— Bačyš, moj daražeńki, nia možna być lanivym da raboty; kožny musić pracavać i Boh navat skazaŭ: „U pocie čała budzieš jeści chleb svoj”.

— E, ja navat i nie sapreŭ-by, choć najbolšy kavałak chleba źjeŭby.

**Maładaja haspadynia da muža:**

— Kab nie maja bulbačka i blinki, dyk tvajho chleba daŭno-by ŭžo nie chvaciła!

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 20. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego” 59..

Выдавец: „БЕЛПРЭС“.

Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.